## ШТО НОВАГА?

### РЭЗАЛЮЦЫЯ ПЛЕНАРНАГА ПАСЯДЖЭННЯ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Мы, члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства — удзельнікі пленарнага пасяджэння Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства дамагаемся паслядоўнага ажыццяўлення права чалавека на жыццё ў міры.

Тое, што мы так шчыра прагнем міру, спакойнага жыцця і стваральнай працы, вынікае з горкага вопыту нашага народу, які перажыў крывавае пекла II сусветнай вайны. Памятаючы гэта, мы падвоім намаганні ў барацьбе супроць смяротнай небяспекі — вырабу зброі „N".

Зброі „N" гаворым „Не"!
23 IV 1978 г.

### ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ

Галандскі мільянер Пітэр Ментэн лічыў свае мільёны і не ўлічыў адной акалічнасці, што нельга забываць мінулае. А ён начыста забыў, як, будучы ў мінулую сусветную вайну афіцэрам СС, забіваў мірных жыхароў на тэрыторыі Савецкага Саюза і Польшчы.

Гітлераўскі кат забыў гэта, але народы не забылі пра яго крывавыя справы. Нядаўна Ментэн даваў паказанні галандскаму суду. Прыпёрты неабвержнымі фактамі, галаварэз стараўся выкруціцца і шкадаваў, што...

Не падумайце, што ён шкадаваў аб зробленых злачынствах. Ён шкадаваў, што не з'яўляецца заходнегерманскім грамадзянінам. Выступаючы ў сваю абарону, гітлераўскі кат спасылаўся на прыклад ФРГ, дзе, па яго словах, ужо даўно нікога не прыцягваюць да адказнасці за зробленыя пры Гітлеру злачынствы. Ён так і сказаў: „Быў бы я заходнегерманскім грамадзянінам, я ніколі не трапіў бы пад суд".

Гэта адзіныя праўдзівыя словы, якія сказаў крывавы кат Ментэн, атрымліваючы свае пятнаццаць гадоў турмы.

### ДЫК ХТО Ж АДКРЫЎ АМЕРЫКУ?

Група амерыканскіх вучоных перакананая ў тым, што першаадкрывальнікамі амерыканскага кантынента задоўга да Калумба і Лейфа Эрыксана былі старажытныя кельты, якія высадзіліся ў Новай Англіі недзе каля 1700 года да нашай эры. Прафесар Гарвардскага універсітэта Бары Фел прадставіў на разгляд археалагічнага кангрэсу, які сабраўся ў горадзе Каслтан (штат Вермант), слайды з відарысамі жылля — пячор кельцкага тыпу і выбітых на скалах дзіўных знакаў, якія, на яго думку, з'яўляюцца „огам" — ранняй формай кельцкай пісьменнасці.

Шматлікія прадметы, знойдзеныя ў розных раёнах ЗША, у тым ліку і пісьмовыя помнікі, сведчаць таксама аб тым, заявіў Фел, што ў дакалумбавай Амерыцы пабывалі і лівійцы, і егіпцяне, і жыхары старажытнага Крыта.

#### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**175 гадоў назад**
12 V 1803 нар. Юстус Лібіх, нямецкі хімік, адзін з заснавальнікаў аграхіміі.

**145 гадоў назад**
7 V 1833 нар. Іаганес Брамс, нямецкі кампазітар, піяніст, дырыжор. Шырока выкарыстоўваў венгерскі і славянскі фальклор.

**140 гадоў назад**
11 V 1838 пам. Енджэй Снядэцкі, польскі хімік, урач, філосаф і асветнік. Рэдагаваў „Вулічныя паведамленні". Выступаў супраць прыгону.

**95 гадоў назад**
10 V 1883 нар. Янка Маўр (Іван Фёдараў), беларускі савецкі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры для дзяцей.





*Адзін з найвыдатнейшых у Белавежы прапагандыстаў навукі, культуры і краявідных вартасцей Савецкага Саюза, узнагароджаны нядаўна залатым значком ТППР — др Ежы Лешэк Альшэўскі ля насценгазеты ТППР у Інстытуце ПАН.*

## Белавежскія сябры Савецкага Саюза

Добра дзейнічаюць белавежскія гурткі Таварыства польска-савецкай дружбы. У Белавежскай гміне іх 12 (6 калектыўных і 6 індывідуальных). Згуртоўваюць яны разам 1.034 асобы.

Адным з найактыўнейшых і шматгадовых гурткоў з'яўляецца гурток пры Інстытуце даследавання млекакормячых ПАН. Яго члены часта выязджаюць у СССР па службовых справах. Кожны такі выезд выкарыстоўваюць потым для правядзення сустрэч у сваім асяроддзі. Апавядаюць, што бачылі ў Савецкім Саюзе, знаёмяць з новымі дасягненнямі савецкай навукі, чытаюць лекцыі на тэму краяведчых вартасцей СССР, дэманструючы пры гэтым дыяпазітывы. Такія сустрэчы правялі ў апошні час др Е. Л. Альшэўскі, дац. др М. Гембчынскі, др А. Федыкова і др М. Пуцкова. Др Е. Л. Альшэўскі чытаў, апрача таго, шмат лекцый аб СССР у грамадскіх арганізацыях. Выкарыстоўваюцца таксама візіты савецкіх вучоных у інстытуце. Сустрэчы з польскімі сябрамі правялі нядаўна др Галіна Клеўчэль і др Крушынская.

У памяшканні інстытута ёсць вітрына з ілюстраванымі інфармацыямі аб жыцці ў СССР.

Варта таксама сказаць, што працаўнікі ІДМ супольна з савецкімі вучонымі прымаюць удзел у падрыхтоўцы манаграфіі Белавежскай пушчы.

Вялікую працу выконваюць 3 гурткі, якія існуюць пры пачатковай школе. Моладзь пад кіраўніцтвам настаўніцы Валянціны Грамадскай наладжвае мерапрыемствы ў сувязі з важнымі ў жыцці СССР гадавінамі, падрыхтоўваючы да іх мастацкую частку. Бярэ ўдзел у конкурсе рускай мовы, перапісваецца з савецкімі школьнікамі. У Дні савецкага фільма глядзіць у мясцовым кіно фільмы, рэалізаваныя ў розных савецкіх рэспубліках, затым на спецыяльных уроках вядзе дыскусію. Усе члены школьных гурткоў выпісваюць „Мурзілку" і „Вясёлыя карцінкі", чытаюць савецкую прэсу, кніжкі. Робяць таксама насценгазету аб жыцці савецкіх школьнікаў.

Паспяхова рэалізаваліся ў мінулым годзе дасягненні Савецкага Саюза. Было наладжана 15 сустрэч з цыкла „Шпацырам па СССР", спалучаных з дэманстрацыяй каляровых дыяпазітываў, падрыхтавана 5 выставак савецкіх выданняў, раз у месяц паяўлялася новая насценгазета аб актуальных падзеях у Савецкім Саюзе. Арганізоўваліся конкурс савецкай песні і згадуйзгадуля аб савецкай літаратуры і фільме. Адбылася таксама сустрэча пры самавары, у час якой прысутныя смакавалі рускія пірагі.

Відаць праца і іншых гурткоў. Вядуць яны прапагандысцкую работу; арганізоўваюць лекцыі, сустрэчы, выстаўкі.

У сакавіку г.г. адбыўся гмінны сход, на якім было выбрана новае гміннае праўленне ТППР. У састаў яго ўвайшлі Анна Байко (старшыня), Віктар Мерынг (намеснік старшыні), Валянціна Грамадская (сакратар), Е. Л. Альшэўскі, С. Бароўскі, Г. Даніловіч, А. Камарэўская і Б. Вугвін. Сход праходзіў у прыўзнятым настроі. Чатыром дзяўчынкам з пачатковай школы былі ўручаны значкі заслужанага маладзёжнага дзеяча ТППР. Залаты значок ТППР атрымаў Ежы Лешэк Альшэўскі. На сходзе выступілі з мастацкай часткай вучні з мясцовага Ляснога тэхнікума — лаўрэаты гміннага конкурсу савецкай песні.

Новае праўленне прыняло план працы на бягучы год. Пастаноўлена працягваць выпрабаваныя ўжо формы дзеяння: лекцыі, сустрэчы, выстаўкі, конкурсы. Плануецца таксама арганізоўваць культурныя мерапрыемствы ў сувязі з важнейшымі гадавінамі і падзеямі ў жыцці СССР, наладжваць нядзелі сяброўства, прымаць удзел у падрыхтоўцы навукова-папулярнай сесіі, прысвечанай 30-годдзю Белавежскага нацыянальнага парку і супрацоўніцтву навуковых цэнтраў у Белавежы і ў беларускай частцы Белавежскай пушчы. Члены гурткоў будуць у далейшым апекавацца магіламі савецкіх салдат і збіраць экспанаты для палатаў нацыянальнай памяці ў Лясным тэхнікуме і пачатковай школе. Праўленне намерылася таксама павялічыць лік гурткоў. Магчымасці такія існуюць у Лясным тэхнікуме, на трыкатажным прадпрыемстве і ў надлясніцтве Белавежа.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПАДАРУНАК ДЗЕЦЯМ

У вёсцы Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна адкрылася музычная школа, пабудаваная на сродкі калгаса. Больш за 60 дзяцей будуць навучацца ў ёй ігры на фартэпіяна, народных і духавых інструментах.

Падлеская музычная школа — сорак трэцяя па ліку ў Брэсцкай вобласці.

### ДЭТАЛІ З ПОЛІУРЭТАНУ

Першая ў рэспубліцы вытворчасць па выпуску тэхнічных вырабаў поліурэтану прынята ў эксплуатацыю ў Бабруйску. Дэталі, атрыманыя з гэтага матэрыялу шляхам ліцця, валодаюць высокай трываласцю, зносаўстойлівасцю, хімічнай стойкасцю і эластычнасцю. Яны будуць выкарыстоўвацца ў машынабудаванні, хімічнай прамысловасці і іншых галінах народнай гаспадаркі.




**Калі вясна бушуе ● Каб і ў будучым так! ● Хто муціць ваду? ● Любіцелям беларускай літаратуры (конкурс) ● Культура Белавежы ● Бабульчыны радасці і гора ● І крыху пра нас ● Весткі з Дубіч Царкоўных, Руткі, Бельска, Клюковіч, Цялушак, Гайнаўкі, Відава, Ліпін, Грабаўца, Нарвы ● Калі сняцца авечкі ● Кастусь цікавіцца машынамі ● Песня „Rozstanie"**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 6 V** — 6.00 TTR. 6.30 Mech. rol. 11.30 Spóźniona młodość — radz. dramat obycz. 12.05 TTR. Upr. rośl. 12.35 Mech. rol. 13.05 Red. szk. zap. 13.15 Pr. dnia. 13.20 Dziennik. 13.30 Obiektyw. 13.50 Radzimy rolnikom. 14.00 Pr. dla najmłodszych. 14.30 Magazyn dla wędkarzy. 15.00 Studio 2.

**Niedziela 7 V** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 7.35 Nasze spotkania. 7.55 Now. w domu i zagr. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 U zarania dziejów — odc. VII wł. ser. dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Kalendarz przyr. W. Puchalskiego: Maj. 12.55 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Noce i dnie — odc. XI ser.

**Poniedziałek 8 V** — 7.25 RTSS. Fiz. 7.55 Geogr. 8.25 NURT — filozof. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Małe i duże zwierzątka — ang. film obycz. 10.25 Nowa Gwinea — naturalny rezerwat przyrody — ang. film dok. 10.55 Wojsk. film dok. 11.55 Muzyka i ekran. 12.45 Latarnia czarnoksięska: Filozofia śmiechu. 13.15 Wielka parada komedii — ameryk. film dok. 14.40 Ludzie uparci — pr. publ. 15.30 Ruiny strzelają — odc. V radz. ser. woj. 16.35 Kalejdoskop z gwiazdą. 17.00 Świadkowie. 17.20 Afonia — komedia radz. 18.50 Wystąpienie Ambasadora Czechosł. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. K. Rituska: Mój piękny dzień urodzin. 21.40 Mistrz. świata w boksie: CSRS — Szwecja. Mistrz. świata w hokeju: ZSRR — Kanada. 23.10 Bez powrotu — fr. dramat sens.

**Wtorek 9 V** — 6.55 RTSS. Fiz. 7.25 Geogr. 7.55 Hist. 8.25 Chem. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Okularnik — radz. film dla dzieci. 9.50 Ptak wulkanów — ang. film dok. 10.20 Cień tamtej wiosny — polski dramat woj. 11.30 Uroczysta Odprawa Wart przed Grobem Niezn. Żołn. 12.25 Gdyby nie oni — pr. muz. 13.10 Wojsk. pr. hist. Szlakiem zwycięstwa. 14.10 Życiorysy współczesne: Szyper. 14.35 Sport: Jutro wyścig. 14.55 Interstudio. 15.35 Pamiętne lato — radz. dramat woj. 16.50 Tele-Echo. 17.50 Sport. Turniej UEFA w p. nożnej juniorów: Polska — Anglia. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XVII. 21.30 Polska pieśń żołnierska. 22.30 Sport. Mistrz. świata w boksie.

**Środa 10 V** — 6.00 RTSS. Hist. 6.30 Chem. 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Dla kl. V Hist. 11.00 Noce i dnie — odc. XI ser. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Entliczek — słowniczek. 16.55 Historia na każdej ulicy. 17.25 Los, Małego Lot. 17.40 Ertacz i piękna Margarita — kom. radz. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Okruchy życia — fr. dramat obycz. 22.00 Sport. Trans. II poł. Finału Pucharu Europy w p. nożnej Bruegge — Liverpool. 22.50 Dziennik. 23.05 Sport. Wyścig Pokoju — jazda indywid. na czas. Mistrz. świata w boksie. Mistrz. świata w hokeju.

**Czwartek 11 V** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.00 Dla kl. VIII J. pol. 12.45 RTSS. Mat. 13.25 Fiz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Sztuka na co dzień. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Bratek przy kominku. 17.00 Sport. I etap WP Berlin — Halle. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. L. Borski: Opinia. 21.45 Pegaz. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport. Kronika Wyścigu Pokoju. Mistrz. świata w boksie.

**Piątek 12 V** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 Fiz. 10.00 Dla kl. IV W porcie. 11.05 Dla kl. II Z wizytą w red. „Świerszczyka". 12.00 Dla kl. VII Geogr. 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierząt. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Spotk. z medycyną. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.50 Kryptonim Stella — odc. V bułg. dramatu sens. 18.05 Sport. II etap WP Halle — Erfurt. Półfinał Pucharu UEFA juniorów w p. nożnej. Mistrz. świata w boksie. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Gra — pol. dramat obycz. 22.10 Dziennik. 22.25 Sport. Kronika WP. Mistrz. świata w hokeju. Mistrz. świata w boksie.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 5 V** — 8.10 Film fab. 9.15 Klub film. 14.45 Koncert. 18.30 Film fab. 20.45 Balet. 21.30 Koncert mł. wykonawców.

**Sobota 6 V** — 8.10 Film fab. 9.40 Nie do wiary. 17.00 Hokej. ZSRR — Czechosł.

**Niedziela 7 V** — 10.10 Film anim. 12.00 Koncert życzeń. 12.40 W świecie zwierz. 15.30 Filmy anim. 16.00 P. nożna. Torpedo — Spartak. 18.20 Koncert. 20.45 Pr. estrad.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Setka dla kurażu — radz. 9—10. Cyrk w cyrku — czes. 11—12. Każdy ma swoje piekło — fr. 13—14.
**Bielsk Podl.** Niewinne — wł. 8. Transamerican ekspress — USA 9—10. Portret w błękicie — radz. 11—12. Ebirach potwór z głębin — jap. 13—14.
**Czeremcha** Wielka noc i wielki dzień — czes. 9—10. Osobliwa miłość — wł. 13—14.
**Czyże** Pani Bovary — to ja — pol. Zaufanie — radz. 10—14.
**Dubicze Cerk.** Magiczny kamień — NRD. Samotnik — fr. 10—14.
**Gródek** Setka dla kurażu — radz. 13—14.
**Michałowo** Dziewczyna do dziecka — wł. 9—10. Czwarta pani Andersen — hisz. 11—12. Wspaniały mężczyzna — buł. 13—14.
**Mielnik** Stara strzelba — fr. 10. Pani Bovary — to ja — pol. 13—14.
**Milejczyce** Na tropie Wilby'ego — USA. Bezdomny — buł. 10—14.
**Narewka** Krótki sezon — wł. Robert i jego małpka — czes. 10—14.
**Orla** Miłość Adeli H. — fr. Po prostu żołnierz — radz. 10—14.
**Rajsk** Sam na sam — pol. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 10—14.

B.Z.Graf. Zam. nr 1010 7.600 egz. N-4

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ



**Ян Чыквін** нарадзіўся ў 1940 г. у Дубічах Царкоўных. Закончыў аддзяленне рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Працаваў настаўнікам сярэдняй школы ў Беластоку. Цяпер з'яўляецца ад'юнктам беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта. Доктар гуманітарных навук. Член Саюза польскіх пісьменнікаў.

Дэбютаваў у 1957 г. на старонках „Нівы". Выдаў тры паэтычныя кніжкі: „Іду" (1969 г.), „Святая студня" (1970 г.), „Неспакой" (1977 г.). Падрыхтаваны да друку новыя зборнікі — паэзіі і прозы.

**ЯН ЧЫКВІН**

## Чорная віла

**(паэма ў чатырох частках)**

### 1. ЗМЯРКАННЕ

*Вечарэла. Кволай ноччу*
*Зацягнулася паўнеба,*
*А другая палавіна*
*Не магла расстацца з сонцам.*

*Што жывое — спаглядала*
*На чырвоную крыніцу.*
*Цішыня. Цяпло якое.*
*Камары стаўпом таўкуцца.*

*Без'языкая, святая,*
*Каляровая прырода*
*Непрыкрытая ляжала,*
*Як прыгожае стварэнне.*

*Многалікім птушкі хорам*
*Дзень хвалілі безупынна*
*Нескончонай серэнадай,*
*Незмаўкаючай руладай.*

2

*Паслухмяна вечарэла.*
*Як лякарства неблагое,*
*Як насонная настойка*
*У далінах пахла сена.*

*Гэтым пахам перагрэтым*
*Ашчаслі́ўленая рэчка*
*Замірала з захаплення*
*Ў меланхоліі цячэння.*

*Мост гарбаты над вадою,*
*Ўжо стары і ненадзейны,*
*Быў апошнім перапынкам*
*Для худых вясковых сцежак.*

*На расчыненых загонах,*
*У жытнёвай аблямоўцы*
*Патухала млявым дымам*
*Дня апошняя хвіліна.*

3

*Ціха-шэра вечарэла.*
*Толькі велічнай трывогай*
*Дагараў паміж кустамі*
*Акраец сонца дарагога.*

*У цяпле яго сардэчным*
*Нараджалася дарога.*
*Пазалочанаю рэчкай*
*Бегла ўпоперак загонаў.*

*А на поплаве паджараным,*
*Спачувальна і лагодна,*
*Пасла дбайна свае жабы*
*Пара буслаў старамодных.*

*Аднастайна, манатонна*
*У цішы раілась мошка*
*Ды гудзелі грозна-звонка*
*Жукі цвёрдыя, як брошкі.*

4

*Звечарэла непрыкметна.*
*І пад белагусты змрок*
*Разгайданым крокам ветлівым*
*Дружна йшоў аркестр кароў.*

*Сумным голасам старэчым,*
*Пакалечаным і ватным,*
*Ім знаёмы хор авечак*
*Памагаў спяваць кантаты.*

*Разам з імі на вячэру*
*Хмара птушак прыфурчэла.*
*І, як людзі глухаватыя,*
*Гусі тэпалі дахаты.*

*Але ткнутыя у сэрца*
*Прадчуваннем, што бяда,*
*Лямант паднялі ля дзверцаў:*
*„Гаспадыні наша дзе?*
*І гаспадар..?"*

З выгляду справа зусім відавочная: літаратура нейкай мовы, незалежна ад месца яе ўзнікнення, належыць да нацыянальнай літаратуры. Кніжка на польскай мове, напісаная ў Мельбурне, належыць польскай літаратуры; кніжка, напісаная і надрукаваная на ўкраінскай мове ў Чыкага, — украінскай літаратуры; а кніжка на беларускай мове... Але ж польская кніжка, што з'явілася ў Астраве, ёсць бадай таксама часткай культурнага пейзажа таго рэгіёна.

У шматнацыянальных краінах няма гэткіх заклапочанасцей. Таксама інакш функцыянуюць нацыянальныя літаратуры там, дзе існуе шматмоўная культурная спадчына. Але трэба ведаць, што і ў Польшчы пішуцца кніжкі на ўкраінскай ці рускай мовах, узнікаюць творы на грэчаскай мове, выходзяць кніжкі на яўрэйскай мове. З другога боку істотная частка польскай літаратуры ўзнікае за межамі краіны, на захадзе Еўропы, у ЗША, таксама ў ЧССР і СССР. Беларуская літаратура — не мне ацэньваць наколькі важная частка яе здабыткаў — узнікае ў Польшчы.

Разам з іх перакладам, гэтыя кніжкі ўваходзяць у круг польскай культуры. Даюць яны свядомасць багатых тэматычных абшараў, праблемаў, якімі, так сказаць, польская літаратура не займалася (...). Незалежна ад (высокіх) літаратурных каштоўнасцей, гэтыя кніжкі (...) зацікаўляюць нас яшчэ і таму, што рэчаіснасць, якую сяк-так (часцей слаба) ведаем, паказваюць нам з цалкам іншай перспектывы.

У якой ступені гэтыя сцвярджэнні можна аднесці да вершаў Яна Чык-

## ПРА ЯНА ЧЫКВІНА

віна? Іх рэалітэты ў роўнай меры ўказваюць на вопыт „басаногага дзяцінства" паэта, як і на дасведчанасць у культурнай спадчыне. Столькі ж у іх вясковых пейзажаў Беласточчыны, колькі і ўрбаністычных матываў.

Калі, аднак, у ранейшых вершах гэтыя матывы выяўляліся ў танацыі нейк патэтычнай (напрыклад, верш „Дом" у зборніку „Святая студня"), дык у навейшых — у танацыі гратэскнай („На смерць вепрука" ў зборніку „Неспакой"). Той першы спосаб трактоўкі быў бліжэй літаратурных узораў, а другі, як можна здагадацца, з'яўляецца літаратурным пераўвасабленнем фальклорных пачаткаў.

Тое, скажам, што ў яго ранніх вершах падпарадкоўвалася ўплывам літаратуры або было паказана на высокім узроўні абагульненасці, у навейшых вершах — супастаўляецца з матэрыяй жыцця.

У зборніках Чыквіна ёсць шмат вершаў, якія сугучны з наглядаемай у польскай паэзіі сялянскай плынню. Гэта вобраз маці, што пажынае сярпом; упэўненасць, што толькі ў непасрэдным сутыкненні з прыродай, з простым жыццём, нараджаецца паэзія. Або ўрэшце, як у вершы пра родную вёску паэта, — упэўненасць, што ні адыход з вёскі, ні пазнейшае вяртанне ў яе не з'яўляюцца чымсьці лёгкім ды звычайным.

Верш „Бяздомнасць" (у зборніку „Святая студня") можна прачытаць (лічу, што гэта не з'яўляецца інтэрпрэтатарскім перагібам) як сведчанне, крыху падшыфраванае, выбару, які прымае кожны пісьменнік з асяроддзя нацыянальнай меншасці. Вельмі агульна кажучы, праблема зводзіцца да выбару мовы. Чыквін двухмоўны, як большасць адукаваных беларусаў. У штодзённым жыцці паслугоўваецца ён дзвюма мовамі; паслугоўваецца — гэта значыць не толькі гаворыць, але і думае па-беларуску і па-польску. Вершы, аднак, піша толькі па-беларуску. А выбар мовы гэта не толькі выбар чытача, гэта па сваёй сутнасці выбар культуры.

„Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!" — можна было б адказаць вельмі проста: айчынай паэта ёсць яго мова. Мова дзяцінства, а не зда-

(Працяг на стар. 4)

## З ВОЗЕРА ДЗЯЦІНСТВА, СА СТУДНІ СТАЛАСЦІ...

Усяго толькі тры невялікія кніжкі вершаў прыадкрываюць заслону аблічча... закаханага ў вясковы пейзаж хлопца? парапенага пачуццём юнака? шматразумеючага і ўмеючага прабачыць мужчыны? Бо што гэта аўтапартрэт, ствараемы цярпліва і карпатліва ўжо дваццаць гадоў — няма ніякага сумнення для ўдумлівага чытача, заўважаючага ў вершах Яна Чыквіна паэзію, вялікае жаданне прыбліжэння да праўды, абпальваючай часта твар — шчокі, павекі, валасы.

Добра гэта ці дрэнна, што Чыквін прабуе з большым ці меншым поспехам выказаць сябе, а не, напрыклад, Эпоху, Час, Краіну? А ці сам ён як паэт, як мастак, падданы націску думак і ўяўленняў, не з'яўляецца тых паняццяў выказальнікам?

У маім адчуванні пасля чытання вершаў Чыквіна засталося многа пытальнікаў. І гэта схіляе мяне да яшчэ аднаго ўступнага сцвярджэння: толькі тая паэзія ўзбуджае думку, дае імпульс уяўленням, заахвочвае да спрэчак, якая ставіць пытанні. А паэзія Чыквіна ўсё яшчэ ёсць, на шчасце, паэзіяй, распытваючай пра звычайныя і дзякуючы таму незвычайныя чалавечыя справы, без якіх жыццё было б толькі існаваннем, быццём травы ці камня. Хоць... Чыквін напісаў верш аб камні адчуваючым, уражлівым, адлюстроўваючым праўду праміnання часу.

Такім чынам, у творчасці Чыквіна сустракаемся з паэзіяй пытанняў — часам непасрэдных, часам замаскіраваных рэфлексій, а другім разам, і найчасцей, набраклых неспакойнай свядомасцю дзівоснасці існавання.

Адкуль і з якога паэтычнага красастану прыйшоў Чыквін? Робячы вывады з першай яго кніжкі „Іду" (1969 г.), выйшаў ён з краіны зачаравання, здзіўлення хараством сялянскага краявіду, з запалоненасці цяплом спрацаваных і пакрытых жыламі мудрасці матчыных далоняў, з захаплення шматколернасцю перыядаў года і маляўнічымі падрабязнасцямі дзяцінства і юнацтва. Знайшло гэта адлюстраванне ў вершах, у якіх чуваць адгалоссе звонкай ліры Багдановіча, сялянскага меласу Ясеніна і іграючай барвамі паэзіі Чаховіча.

Знайшло гэта таксама адлюстраванне ў гладка звінячай страфе-чатырохрадкоўі, у рэхах меладыйнай народнай песні, у імажыністычных амаль схільнасцях да вясковай антрапамарфізацыі вобраза. Але ўжо ў кніжцы „Іду", збіраючай звыш дзесяцігадовы плён паэтычнай працы, разважанняў, здзяйсненняў і няўдач, лёгка прыкмеціць пераход да верша-імпрэсіі, верша-медытацыі, упісанага хутчэй у рытм, адпавядаючы цячэнню неспакойнай думкі, чымсьці ў рызы рыфмаў, якія з'яўляюцца найчасцей асанантычнымі, прыблізнымі, сігналізуючымі толькі саюз, вузел, бутон маючай расцвісці думкаю галінкі верша.

З гэтых твораў можна вычытаць не толькі біяграфію хлопца, ідучага крок за крокам да ведаў, культуры, прыгажосці, заключанай не толькі іманентна ў жывой прыродзе, але таксама ў прадуктах рук чалавечых. З іх можна таксама вычытаць эмацыянальную ўражлівасць, хоць зачаста параненую незразуменнем, выкліканым утоенай мітуснёй самога паэта як у сферы пачуццяў, так і ў галіне ratio, якое досыць часта паяўляецца ў пуэнтах вершаў.

Я не ўпэўнены, ці Чыквін знайшоў сваю святую студню адразу, але не пакідае мяне перакананне, што яму не надта ўдаюцца фабулярызаваныя „паэмавытворныя" вершы, як, напрыклад, „Беларуская дзяўчына". Яго арыгінальнае слова, непаўторнае, джалячае чытача аўтэнтычным хваляваннем і бачаннем свету і людзей, шукаў бы я бадай у творах тыпу „Над возерам" (1958 г.), „На папасе" (1966 г.), „Досвіткам" (1967 г.), дзе натуральнасць выказвання звязана з нязвыклым, чыквінскім кшталтам прыроды, людзей, іх усхваляваннем і дзе гобач думкі прамаўляе да нас пластычнае бачанне свету і яго пачутая музыка.

„Святая студня" — гэта яшчэ адно пытанне, пастаўленае сабе і чытачам, пра сэнс паэтычнай працы і той прыгожай хваробы — тузання са словам, якое мае нам адказаць, хто мы, куды ідзем і нашто жывем. Першая частка кніжкі з загалоўкам „Паверыўшы ў паэзіі крыло" выклікае ўражанне твораў перажытых, перадуманых, узважаных і адцэджаных да друку. Горкія гэта і годныя паэта творы. Але ці ж без горычы, без яду магчымы мёд, што лечыць нашыя недамаганні? Верш „Вяртанне" — без павучэння і надуманых метафар — гаворыць аб сэнсе паэтычнай карпатлівасці. Паэзія, як люстэрка крынічнай вады, дае магчымасць пазнаць праўду, прыкмеціць непадробленае аблічча сваё (што з таго, што трывожнае, невядомае, дзіўнае) і свету.

Загаловачны вянок санетаў гэта спроба самаакрэслення польскага эстэтычнага генезіса, польскіх крыніц інспірацыі. І таму цікавы. Цікавы іменна спробай параўнання сябе з адной, бадай, найважнейшай крыніцай, ажыццяўляючай польскую паэзію і не толькі польскую, з Міцкевічам. Тым не менш гэтую спробу трэба разумець як супярэчлівы адказ, куды ісці. Бадай што не па цернях формы санетаў.

„Неспакой" — трэцяя з апублікаваных да гэтага часу паэтычных кніжак Чыквіна — не таму, што новая, але таму, што найбольш спелая, з'яўляецца, несумненна, пасведчаннем сталасці паэта, які шукае з поспехам слядоў свайго босага дзяцінства, юнацтва і знаходзіць... горкія ды салодкія плады лета. Чыквін не з'яўляецца тут „сынам Гармоніі, сынам Сонца", але іменна „часткай перпетуум-мобіле" пытанняў, роздуму, сумнення і жадання не столькі Аркадыі, колькі паглыблення дыялектыкі часу, зразумення кірунку развіцця барацьбы дабра і зла, прыгажосці і брыдоты, праўды і ашуканства.

У рускай мове ёсць прыметнік „щемящий". Дык вось вершы з кніжкі „Неспакой", напоўненыя порахам горычы з кнотам рамантычнага liberum veto ўсяму штодзённа-празаічнаму, агіднаму, неаўтэнтычнаму, узрываюцца не адразу, а пасля нейкага часу, пасля ўважлівага чытання і прымушаюць паставіць пацяшаючы дыягназ: у беларускай паэзіі, уключаючы сюды, вядома, Савецкую Бе-

(Працяг на стар. 4)

 

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, больш чым два гады хаджу я з Юркам. Ён з маёй вёскі. Дагэтуль было ў нас усё добра, казаў, што мяне кахае. Але нядаўна яго маці забараніла нам спатыкацца. І Юрка перастаў прыходзіць. Мы вучымся ў горадзе (апошні год). Час ад часу мы бачымся, ён ведае, што я не магу без яго жыць, але робіць мне на злосць, а можа мне так толькі здаецца. Мае сяброўкі нарабілі плётак, а ён адносіцца да іх ветліва. Юрку нават усведамляе яго брат. Ён гаворыць, што калі ты яе кахаеш, то нічога тут і маці не зробіць. Аднак я Юрку не магу расшыфраваць. Ён раз са мной, раз з другімі. Усім кажа, што ўжо не будзе са мной хадзіць, а мне, калі яго спытаю, адказвае, што ўсё такі ён мяне кахае і будзе са мной хадзіць. Я спаўняю ўсе яго просьбы. Ужо хутка ў нас будзе забава. Ён абяцае быць са мной цэлы вечар, але я думаю, што гэта толькі словы, каб мяне пацешыць. Сэрцайка, парай мне, што рабіць, ці сказаць яму ўсё, што думаю і прасіць яго, каб са мной спатыкаўся, ці што? Я не магу без яго жыць. Па начах плачу, не хаджу на заняткі.

Ірэна М. з Б.

Ірэна! Перастань плакаць! Не расклейвайся, вазьмі сябе ў рукі! Тым толькі шкодзіш сабе. Найгоршае, што на заняткі не ходзіш. Неадкладна вазьміся за вучобу — гэта ж твая будучыня. Помні толькі, што калі нават хлопца і моцна кахаеш, нельга дазваляць яму на ўсё, быць такой паслухмянай. Просіш, каб спатыкаўся, гуляў з табой на забаве, пытаеш, ці кахае хоць цябе. Такая дзяўчына хутка хлопцу знудзіцца. Пакажы, што і ты штосьці значыш. І калі на забаве ён не захоча з табой гуляць, ты і не глядзі ў яго бок. Гуляй з іншымі. Хаця і крыўдна табе, але рабі добрую міну, усміхайся, як ні ў чым не бывала. Паглядзіш, як усё адменіцца. А калі і не — не перайтмайся. Маладая ж, іншага яшчэ пакахаеш.

**Сэрцайка**

 

## Фота па заказу — MUD



**Заказвалі:** Гэля і Маніка з Пагулянкі, Ева і Міраслава з Апакі Вялікай.

## Вер-не-вер

Сніцца мне, што я бландзінка, хаця ў сапраўднасці я цёмнавалосая. Валасы дзіўна абрэзаныя — спераду грыўка, па баках да плячэй, а ззаду вельмі доўгія. І мая цёшча заплята мне дзве касы. І ўжо гэтыя косы знайшліся спераду. Я гляджу на іх, а яны нейкія тонкія. І ведаю я, што цёшча, гледзячы на мяне, думае, што мае косы такія ж тонкія, як і ногі, — затонкія да маёй фігуры. А я думаю — — не такія ўжо мае ногі тонкія, найважнейшае, каб добра яны мяне насілі.

Пасля прыснілася, што памерла мая сяброўка (яна жыве і ёй 42 гады). Гляджу, ляжыць яна ў труне і цэлая прыкрыта белым матэрыялам, аж на вочы.

І ўрэшце сніцца мне, быццам я маю выходзіць замуж. Тры мае сяброўкі далі мне цудоўны букет з палявых кветак. Ён быў цэлы белы, толькі, як бы поясам, перавязаны быў жоўтымі кветкамі. Пасярэдзіне букета сядзела вялікая чырвоная кветка, якая вельмі прыгожа выглядала на белым фоне. Што могуць абазначаць усе гэтыя сны?

Валя

**Валя!** Сны твае супярэчлівыя, але ў асноўным добрыя. То валасы белыя і доўгія, што абазначала б нейкі прыбытак, то раптам косы з іх выйшлі тоненькія. То кветкі, якія табе далі: белыя з чырвонай кветкай пасярэдзіне, што абазначала б радасць, мо нават і каханне, але перавязаныя жоўтымі, што абазначала б нейкую здраду. Думаю ўсё ж, што большасць элементаў гаворыць на тваю карысць, тым больш, што ў другім сне ты бачыла труну, а думаю, што ты яшчэ не такая старая, каб думаць аб смерці — значыць чакае цябе вяселле ці нейкі прыбытак (можа ў сувязі з падарожжам — сяброўка ж была прыкрыта белым матэрыялам).

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### КАБ НЕ ЛЫСЕЦЬ

Валасы на галаве чалавека прызначаны прыродай не толькі для таго, каб рабіць прычоску. Яны захоўваюць цяпло і, акрамя таго, узмацняюць пачуццё дотыку. Аднак часцей за ўсё людзі перажываюць страту валасоў іменна з-за эстэтычных меркаванняў.

Асабліва цяжка пераносяць аблысенне юнакі і дзяўчаты, паколькі кожны з іх хоча быць прывабным.

Заўчаснае паталагічнае выпадзенне валасоў часта ўзнікае ўжо ў 20-25 гадоў. Гэта з'ява звычайна абумоўлена спадчыннымі фактамі; значыць, у дзядуль ці бабуль рана пачалі выпадаць валасы.

Часта прычынай аблысення бывае няправільны догляд валасоў. Фарбаванне шкоднымі фарбамі, абясколерванне рознымі хімічнымі сродкамі, адмоўна ўздзейнічаюць на валасы. Тапіраванне, парыкі, нават футравыя шапкі, калі жанчыны не знімаюць іх з галавы на працягу дня, садзейнічаюць выпадзенню валасоў і іх аслабленню.

Калі вы хочаце захаваць свае валасы здаровымі і прыгожымі, ніколі не карыстайцеся рознымі хімікатамі без парады вопытнага майстра-цырульніка. Усё гэта рабіць трэба не часта, даючы валасам магчымасць адпачыць.

Аблысенне могуць выклікаць і некаторыя лекі, напрыклад, антыбіётыкі, калі чалавек іх не пераносіць, мачагонныя, гарманальныя прэпараты, сродкі для пахудзення, якія ўжываюцца бескантрольна ў парадку самалячэння.

Аблысенне можа пачацца нават пасля родаў, пасля аперацый, пры пераломе касцей і г.д.

Запаленчыя працэсы зубоў, носаглоткавай часткі, а таксама моцны спалох і цяпер бываюць няраз прычынай раптоўнага выпадзення валасоў. Невялікія лысінкі іншы раз з'яўляюцца з таго ж боку, дзе хворы зуб.

Аблысенне можа быць звязана з напружаннем, нацягнутасцю падскурнай злучальнай тканкі валасістай часткі галавы. У гэтым выпадку прымяняюць аперацыю.

У апошні час шырока выкарыстоўваюць для лячэння ўсіх форм выпадзення валасоў фізіятэрапеўтычныя метады — масажы, уціранне лекавых сродкаў і г.д.

Але лепш за ўсё з самага дзяцінства беражліва адносіцца да валасоў, дагледаць іх, пакуль яны яшчэ здаровыя і не выпадаюць. Клапоцячыся аб сваім здароўі, не парушаючы рэжыму харчавання, вы тым самым будзеце клапаціцца і аб сваіх валасах.

**Эскулап**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ц. арандаваў домік на неазначаны час. Домік быў у кепскім стане, і Ц. вымушаны быў правесці капітальны рамонт, які каштаваў яму звыш 50 тысяч злотых. Пасля смерці ўласніка доміка яго сын А. прадаў яго Д. Д. патрабуе ад Ц., каб той пакінуў яго домік, і не хоча звярнуць яму коштаў рамонту. Ці Ц. належацца кошты рамонту, а калі так, то хто абавязаны іх звярнуць? Ці Д. можа ад яго патрабаваць арэнднай платы за мінулы час?

АДКАЗ: Ц. зрабіў выдаткі на рамонт па згодзе ўласніка нерухомай маёмасці. Пасля гэтага ён жыў у доміку, а ўласнік не патрабаваў ад яго арэнднай платы. Паміж імі не было ўмовы, на аснове якой трэба было б адлічваць ад коштаў рамонту арэндную плату. Таму Д., які купіў нерухомую маёмасць, не можа патрабаваць ад Ц. арэнднай платы за мінулы час, а можа патрабаваць заплаты за безумоўнае карыстанне ў велічыні, якая прынята ў данай мясцовасці, і толькі за час, калі ён стаў уласнікам. Што датычыць затрат на рамонт, то Ц. можа іх патрабаваць ад А. Аднак А. абавязаны звярнуць гэтыя кошты ў размеры, у якім яны ў момант продажу нерухомай маёмасці мелі вартасць. Д., які купіў нерухомую маёмасць, ніякіх абавязкаў адносна зробленых Ц. рамонтаў не мае.




ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Адносіны паміж Ленай і Мішам няспынна мяняліся. То Лена шукала ў яго абароны і дапамогі і ў такія мінуты адчувала сябе слабай жанчынай, якой патрэбна падтрымка моцнага чалавека; то ён сам быў у становішчы вядзёнага, і кожны яго крок кантраляваўся і накіроўваўся ёю.

Звесткі, якія Лене ўдалося сабраць пра Ткачэвіча, былі вельмі супярэчлівыя. Адны лаялі інжынера, сцвярджалі, што ён хрыстапрадаўца, на крыві землякоў сваіх заслугоўвае давер'е немцаў; другія расказвалі, як ён абараняў рабочых у порце і як рабіў выгляд, што не заўважае, калі пры пагрузцы што-небудзь псавалася або ламалася.

Лена вырашыла пайсці на рызыку. Няхай Ткачэвіч, без дапамогі якога цяжка правесці аперацыю з баржай, удзельнічае ў гэтай справе. Яго паводзіны будуць праверкай. Калі ж, дамаўляючыся з ім, Міша адчуе, што ён хітруе і круціць, то трэба будзе звесці ўсю размову да бяскрыўднага жарту і выйсці з гульні.

Міша пачаў дзейнічаць. Ткачэвіч, здавалася, толькі і чакаў яго сігналу. Ён тут жа прапанаваў свой план. Баржа са спіртам стаяла ля прычала побач з баржай, у якой знаходзілася газа. Немцы перапампоўвалі яе ў аўтацыстэрны. Ткачэвіч прапанаваў непрыкметна перацягнуць масткі ад баржы, дзе захоўвалася газа, да баржы са спіртам і адкруціць гайкі на клапанах, якія закрывалі трум. Такім чынам, немцы адразу знойдуць прамую дарогу да спірту, і вынікі гэтага не замарудзяць праявіцца.

План Ткачэвіча быў адобраны групай. Яны дамовіліся, калі лепш ажыццявіць гэту аперацыю. Аднак у вызначаны час Ткачэвіча на месцы не было.

Міша нерваваўся, ён хадзіў па беразе непадалёк ад баржы, прыглядаючыся, ці няма якіх-небудзь прыкмет правакацыі супраць яго.

Але навокал усё быццам бы спакойна. Ад баржы з газай ад'язджалі напоўненыя цыстэрны. Міма праходзілі патрулі, якія назіралі за парадкам. Яны не ўмешваліся ў справы тых, хто працаваў на караблі і на баржах.

Праз паўгадзіны павінна закончыцца змена. І пакуль адны грузавікі ад'едуць, а другія заступяць на іх месца, узнікне так званая пераменка. Вось тут у час мітусні, якая міжволі з'яўляецца ў пераменку, якраз і зручна перацягнуць масткі з адной баржы на другую.

Міша ўжо зусім было страціў надзею на прыход Ткачэвіча, калі той нечакана з'явіўся з-за скрынь з грузамі.

— Д'ябал узяў бы гэтага Папеску! — злосна сказаў Ткачэвіч. — Дзве гадзіны пратрымаў з-за таго, што хтосьці перапісаў на скрынях са станкамі порт прызначэння. Замест Бухарэста станкі адправілі ў Канстанцу, а адтуль яшчэ некуды, і цяпер нідзе не могуць знайсці...

— Хто ж гэта зрабіў?

— Чыясьці ўмелая рука. Нават трафарэты падыходзячыя дасталі. Чыстая работа! Ну пайшлі, пакуль не з'явілася новая змена.

Двум мужчынам спатрэбілася ўсяго некалькі мінут для таго, каб перацягнуць драўляныя масткі з адной баржы на другую, а потым Ткачэвіч зайшоў на баржу са спіртам і хутка адкруціў там гайкі на клапанах, якія закрываюць трум.

— Ну, спектакль пачаўся! — сказаў Ткачэвіч, калі яны з Мішам зноў вярнуліся на бераг.

— А я, па праўдзе кажучы, вырашыў, Аляксандр Васільевіч, што вы не прыйдзеце.

— Разумею. Нават магу ўявіць сабе, што ты пра мяне думаў. Жывём, як у джунглях...

Вынікі праведзенай імі аперацыі не прымусілі сябе доўга чакаць. Праз паўгадзіны да прыстані пад'ехала аўтацыстэрна. Два нямецкія салдаты выскачылі з кабіны і, раскручваючы шланг, накіраваліся па мастах да баржы.

Міша і Ткачэвіч адышліся метраў на сто і селі на вялізную скрыню. Адсюль, як з назіральнай вышкі, ім бачны кожны рух салдат.

Вось яны адкінулі жалезную накрыўку. Пачалі апускаць у гарлавіну шланг. Потым раптам выцягнулі яго назад. Штосьці адзін аднаму сказалі. Потым сталі на калені і заглянулі ў гарлавіну. Напэўна, панюхалі. Устаплі. Адзін з іх пабег да машыны. Залез у кабіну. Выскачыў назад з вядром.

— Вось і ўсё, уверцюра закончана, — прамовіў Ткачэвіч, — пачынаецца першы акт.

Вядро са спіртам ужо паднята наверх, і салдаты, абмакнуўшы ў яго пальцы, абсмакталі іх, як дзеці ледзянцовага пеўніка на палачцы. Асцярожна ўнеслі вядро ў кабіну, аўтацыстэрна тут жа развярнулася, выехала на бераг і на мінуту спынілася каля групы нямецкіх маракоў, якія, сышоўшы з карабля, напэўна, накіроўваліся ў горад. Па тым, як маракі адразу павесялелі, няцяжка было здагадацца, што ім паведамілі салдаты. Некалькі маракоў адразу ж накіраваліся да баржы, астатнія пабеглі ўбок.

— Не інакш, як за тарай пабеглі! — усміхнуўся Ткачэвіч.

З іскры разгарыцца полымя! Не прайшло і паўгадзіны, як прыстань стала падобная на крыніцу сярод пустыні, да якой, ратуючыся ад смагі, беглі паломнікі.

*(Працяг будзе)*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Дзве Лідзіі

На дубіцкай пошце працуюць дзве Лідзіі. Першая — начальнік пошты Лідзія Млодзян, другая — асістэнтка Лідзія Мікульская. Прыемна тут пабываць кожнаму, бо ўсіх яны сустракаюць ветліва. Вядома, бываюць розныя грашовыя чэкі ці іншыя дзяржаўныя паперы. Чалавек часта і не ведае, як іх выпісаць. Нашы дзяўчаты падкажуць і параяць, дзе і як трэба напісаць. Гэта вельмі важна, асабліва старэйшым людзям, якія не арыентуюцца ў розных фармулярах. На дубіцкай пошце чалавек доўга ў чарзе не стаіць, бо дзве Лідзіі працуюць спраўна.

Лідзія Мікульская — адначасова тэлефаністка. І ў гэтай галіне людзі задаволены з яе працы. У час водпуску замяшчае начальніка і робіць гэта спраўна.

Апрача ўсяго вышэй сказанага, хачу яшчэ дадаць, што гэтыя сумленныя працаўнікі многа ўвагі прысвячаюць падпісцы газет, у тым ліку і „Нівы“, якой больш як 200 экземпляраў мае наша пошта.

**М. Панфілюк**

## Беспарадак

Едучы шашой з Заблудава ў напрамку Нарвы, непадалёк ад самай Нарвы злева вы ўбачыце могілкі, а справа невялікі лясок. І тут насоўваецца думка, што не ўсё тут так, як трэба.

Калі на могілках хаваюць некага, вядома, на магілу кладуць розныя вянкі. Потым тыя вянкі знімаюць і выносяць іх на другі бок — у лясок. Калі едзеш дарогай, тыя вянкі старыя, паіржавелыя проста самі лезуць у вочы. Псуюць кругом выгляд і робяць непарадак у лесе.

**М. Лук'янюк**

## ПАРНАСІК

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

## НЕЙТРОНАВАЙ СМЕРЦІ НЕ БЫЦЬ!

*Панад сусветам*
*голас трывогі,*
*голас трывогі чуваць.*
*Смертаноснай,*
*нейтронавай бомбы*
*пагроза*
*павісла.*
*Небяспека знішчэння*
*чалавецтва*
*наказвае быць*
*пільнымі.*
*Нам*
*апошняй*
*усё*
*не забыць!*
*Не забыць*
*палёў, попелам чорным пакрытых,*
*не забыць*
*страшэннага слова: гарыць,*
*не забыць*
*усіх існаванняў, бязвінна забітых,*
*Хірасімы і Нагасакі —*
*немагчыма забыць!*
*Утаймаваць*
*ход звар'яцелых намераў,*
*паходы,*
*жалезных крыжоў кавалераў*
*скрэсліць*
*раз назаўсёды — нашая мэта!*
*Падхапіце*
*мой заклік,*
*людзі*
*ўсіх вёсак,*
*усіх гарадоў!*
*Людабойства,*
*руіны,*
*магілы і кроў,*
*бомбы*
*„А“,*
*„Н“*
*„N“*
*са слоўнікаў нашых*
*далоў!*
*Нам*
*іх не трэба,*
*ніколі!*
*НЕТ!*
*NEIN!*
*NO!!!*

**Сяргей Сац**

## Дэкада вясковай культуры

У дэкадзе вясковай культуры Чаромхаўская гміна наладзіла супрацоўніцтва з раённай дырэкцыяй ПКП. Ужо ў сакавіку Чаромхаўская гміна прадставіла беластоцкім чыгуначнікам свае дасягненні ў галіне народнай творчасці і мастацтва, а таксама пазнаёміла сваіх калег з праграмай духавога аркестра.

На выстаўцы, якая была арганізавана ў Доме культуры „Калеяж“ у Беластоку, гміна паказала дываны і кілімы з Кузавы і Ставішчаў, вырабы з запалак Яна Швейкуса, а таксама 12 экспанатаў настаўніка-мастака Сяргея Смыка. Выстаўку наведалі працаўнікі ДРКП, школьнікі прафесіянальнай чыгуначнай школы. На заканчэнне сустрэчы адбыўся супольны канцэрт аркестраў з Чаромхі і з Беластока.

Неўзабаве будзе падпісаны дагавор аб культурным абмене паміж чыгуначным Беластокам і чыгуначнай Чаромхай.

**Ул. Сідарук**

## Людзі вучацца

У гміне Нараўка 40 асоб не мела пасведчанняў аб заканчэнні пачатковай школы. Розныя былі прычыны гэтага. І вось каля 30 асоб сабралася ў гміннай школе на экстэрністычны экзамен па праграме чатырох класаў пачатковай школы, каб потым магчы здаваць экзамен на кваліфікаванага гаспадара.

Людзі перажывалі. Вядома, хоць гэта гаспадары, якія ўмеюць працаваць на гаспадарцы, тут дрыжалі. Кожнае слова і цыфру пісалі не зусім упэўнена. Столькі ж часу прайшло, такі перапынак у навуцы! І тым большая была радасць з добрай ацэнкі іх самастойнай працы. Ацэньвалі іх тыя самыя настаўнікі, якія зраніцы вучаць іх дзяцей. Як гэта важна для бацькоў, каб не горш адказаць, як сын! Добра здалі экзамен бацькі. Усе атрымалі пасведчанні аб здадзеным экзамене.

**А. З.**

## Клуб селяніна ў вёсцы

У Дубічах Царкоўных каля самай шашы з гатовых элементаў пабудавалі клуб селяніна. Тут ужо некалькі гадоў таргуе маладая прадаўшчыца Ірына Анхімюк. У клубе ўтульна і прыемна, вялікі выбар тавараў. Часта ў крамах нават няма такіх, якія ёсць у дубіцкім клубе селяніна. Сюды за пакупкай прыходзяць не толькі з Дубіч, але і з Грабаўца, Чэхаў Арлянскіх і Тафілаўцаў.

**М. Панфілюк**

## Усе роўныя

У дубіцкім філіяле ГС, калі хто з сялян тут купляе нейкі тавар, як папу, вугаль, дык абавязкова пхаюць яшчэ нейкую мяшанку, пераважна „R“. ГС гаворыць, што гэта ўсё паводле пастановы.

Адно толькі цікавіць: мяшанку бяруць нават тыя сяляне, якія не маюць зусім зямлі, але трэба ж і ім нешта купіць у ГСе. Чаму так? А мо гэта такая справядлівасць — усе роўныя, няма лепшых, няма горшых?

**(Д)**

## Пажылым людзям

Ад 1960 года ў Бельску працуе аддзел Польскага саюза эмерытаў, рэнцістаў і інвалідаў. Ад 1973 года кіруе ім Фёдар Пугацэвіч. Саюз налічвае 1175 членаў. Рада саюза арганізуе сваім членам розныя экскурсіі — два-тры разы ў год, пераважна летам. Былі экскурсіі ў Варшаву, Сувалкі, Аўгустоў, Драгічын і ў грыбы.

Пры дапамозе Беларускага грамадска-культурнага таварыства членам саюза быў паказаны беларускі фільм з апошняй вайны. Таксама саюз супрацоўнічае з ТВП, якое дае дакладчыкаў. Арганізуюцца таксама святкаванні Дня жанчын і іншыя.

Апошнім цікавым мерапрыемствам было адзначэнне Дня інваліда. Даклад прачытаў старшыня Фёдар Пугацэвіч. На сустрэчы прысутнічаў начальнік горада, які і расказаў пра розныя справы нашага горада. На заканчэнне выступіў мастацкі калектыў з Медыцынскага ліцэя ў Бельску, які спяваў польскія і рускія песні.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Па заслугах

Сакратар пасялковага камітэта № 4 у Гайнаўцы Міраслава Рамаnоўская — чалавек актыўны і заслужаны. За шматгадовую грамадскую працу яна была ўзнагароджана Сярэбраным Крыжам Заслугі. Міраслава Раманоўская — чалавек, адданы грамадскай працы, яна ніколі не лічыцца са сваім часам. Заўсёды яна там, дзе яе чакаюць. Памагала моладзі, супрацоўнічала з польскім камітэтам грамадскай дапамогі, апякуецца адзінокімі і старымі, актыўна дзейнічае ў пасялковым камітэце і гарадской паяднаўчай камісіі.

Думаю, што і ў далейшым чалавек гэты не зложыць рук, будзе дзейнічаць для дабра жыхароў Гайнаўкі.

**Э. Вайсковіч**

## Новыя солтысы

### ТАПЧЫКАЛЫ

У вёсцы Тапчыкалы адбыліся выбары новага солтыса. Папярэдні солтыс Мікалай Мароз быў ім 14 гадоў. Цяпер перадаў заданні маладому гаспадару — Анатолю Таранце. Яго намеснікам стаў Іван Шчыгел.

У дыскусіі на сходзе былі пастаўлены заданні вёскі на бліжэйшы час: пабудова дарогі ў вёску Тапчыкалы і святліцы.

Хачу яшчэ сказаць, што гэты сход у вёсцы адбыўся на двары. Стаяла прыгожая веснавая пагода.

**Восень**

### ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

У Дубічах Царкоўных аднагалосна новым солтысам быў выбраны Рыгор Хамічук, які ўжо адну кадэнцыю гэтую функцыю ў вёсцы выконваў. Гэта старанны, добрасумленны чалавек і ў людзей мае ён пашану. Ён і ў працы на зямлі, і ў грамадскай дзейнасці дае добры прыклад іншым.

**М. Панфілюк**

### ТАФІЛАЎЦЫ

У Тафілаўцах сяляне выбралі солтысам добрага гаспадара Уладзіміра Міхалюка, які заваяваў сабе вялікі аўтарытэт вёскі. Аднавяскоўцы вераць, што ён іх не падвядзе.

**М. Панфілюк**

### ЧАРОМХАЎСКАЯ ГМІНА

Выбары солтысаў у Чаромхаўскай гміне прайшлі хутка і спраўна. Сходы ў вёсках адбыліся ў адзін час. Добра пры гэтым папрацаваў супольна з грамадска-палітычным актывам гміны сакратар гміннай управы Мікалай Кулік, які быў адказны за правядзенне выбараў солтысаў.

На сходах сяляне прымалі абавязацельствы грамадскіх прац на карысць сваёй вёскі. Жыхары Ставішчаў, Вулькі Тэрахоўскай, Бабро́ўкі і Апакі абавязаліся давесці да канца пабудову і рамонт сваіх святліц. Апрача таго, сяляне Ставішчаў рашылі памагчы пры пабудове злеўні малака і пры меліярацыі, а жыхары Палаўцоў пры пабудове дарогі Палаўцы-Ставішчы. Вельмі каштоўнае тое, што кожны дарослы жыхар Палаўцоў папрацуе пры той дарозе восем дзён.

Солтысаў людзі павыбіралі наогул тых самых. Толькі ў Беразішчах выбралі новага солтыса — М. Маркевіч стаў падсолтысам.

**(ус)**

## Наша ПОШТА

### ПАЗНАЁМІМСЯ

Пишет вам девушка из небольшого шахтерского городка, расположенного на берегу Тихого океана, из города Партизанска.

Мне 17 лет. В этом году я заканчиваю 10-й класс. Мне очень хочется переписываться з ребятами из дружеских социалистических стран.

Мой адрес:

692880
РСФСР
Приморский Край
г. Партизанск,
ул. Школьная, дом 12 кв. 16
Палюхович Галине.

Я живу в Советском Союзе и хочу переписываться с польскими друзьями. Мне 19 лет, работаю и учусь в техникуме — заочно.

Мой адрес:

346511
г. Шахты — 11,
Ростовская область
ул. Обуховой 40
Зацепелиной Ольге.

## Дом культуры ў Райску

Вясковы Дом культуры, пра які пісаў у свой час у „Ніве“ Янка Целушэцкі, пабудаваны. Жыхары Райска ўласнымі сіламі за 700 тысяч зл. пабудавалі гэты будынак. Цяпер тут адкрыты клуб „Рух“, кожны дзень працуе вялікая святліца, дзе адбываюцца розныя культурныя мерапрыемствы. У адным пакоі ёсць пазычальня посуда, якая належыць да актыўнага ў Райску гуртка вясковых гаспадынь. У бліжэйшы час у доме культуры будзе адкрыты бібліятэчны пункт. Адзін з пакояў заняла моладзь на чытальню.

За ўдзел у конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“ за 1977 год жыхары Райска атрымалі грашовую ўзнагароду — 200 тысяч зл. Сам ваявода, уручаючы гэтую ўзнагароду, жадаў нам плённай працы ў далейшым. Абяцаў памагчы, калі будзе трэба. Вёска прызначыла гэтую ўзнагароду на абсталяванне вясковага дома культуры.

І вось выйшлі клопаты. У доме культуры няма ніякага ацяплення. А зімой без гэтага цяжка думаць пра нейкую працу. Мы думаем пра цэнтральнае ацяпленне. У гміне нам сказалі, што няма патрэбных матэрыялаў, каб гэта выканаць. А грошы мы маем — нашу ўзнагароду. Думаем, што гмінныя і ваяводскія ўлады памогуць нам знайсці выхад і дастаць патрэбныя матэрыялы.

**Яўгенія Шумская**

## АДГАЛОСКІ

### ШТО З БУТЭЛЬКАМІ

Некалькі разоў пісаў Уладзімір Сідарук аб цяжкасцях, якія выступаюць, калі селянін хоча прадаць бутэлькі ад воцату, піва і іншых напіткаў. Прадаўшчыцы ў магазінах бароняцца, як могуць, каб бутэлек тых не прымаць. Якая ж злосць бярэ чалавека, калі ён, памыўшы бутэлькі, пакладзе іх у сумку, нясе ў магазін, а тут цябе адпраўляюць з імі назад. Не адзін са злосцю ўсе бутэлькі вывальвае ў прыдарожны роў, а ідучы дарогай, кляне такія парадкі на чым свет стаіць.

Што справа гэтых бутэлек не ўладжана дагэтуль ГСамі як належыцца, сведчыць і такі факт, што сяляне па некалькі мяшкоў вязуць шкляны посуд на пункты скупкі ў Гайнаўцы. Ды не кожны збярэ вялікую колькасць, а мала везці аж у Гайнаўку не аплачваецца.

І тут добрая парада ГСам. Яны павінны ўзяць прыклад з Гайнаўскага аддзела ВСС, які ў горадзе вядзе чатыры пункты скупкі бутэлек і, апрача таго, загадаў усім крамам, якія знаходзяцца на акраінах горада, купляць бутэлькі без абмежаванняў. Праблема продажу пустых бутэлек у Гайнаўцы не існуе.

**Вірскі**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ШУКАЦЬ СА СВЕЧКАЙ“, „Ніва“ № 8/1147 ад 19 лютага 1978 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” ZAKŁAD ZAOPATRZENIA ROLNICTWA W BIAŁYMSTOKU.**

W nawiązaniu do notatki prasowej zamieszczonej w Waszym tygodniku (nr 8/1147 z dnia 19 lutego 1978 r.) uprzejmie zawiadamiamy, że kabel pięciożyłowy należy do towarów deficytowych.

Rolnik otrzyma ten rodzaj kabla pod warunkiem, że złoży zamówienie (należy podać, że sprzedaż za zaliczeniem pocztowym) do PHSR „Agroma” w Białymstoku, ul. Elewatorska 9. Ta transakcja została uzgodniona telefonicznie z kierownikiem nadzorującym ten kierunek sprzedaży.

Sytuacja na tym odcinku może ulec poprawie pod warunkiem otrzymania przez hurtownika zwiększonych dostaw kabla, które umożliwią zaopatrzenie w pełni Składnic Maszyn Rolniczych w województwie.

**Zb. Dobrzyński**
**Dyrektor ZZR**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

